Унутры: РАЗБУДОВА — ЯШЧЭ РАЗ АБ СВЯТЛІЦАХ — ВІЗІТ МІСТЭРА БРУКА


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 34 (495) | ГОД X | 22 ЖНІЎНЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.




На старт! Справа — Вера Камінская

## УКАЗ САВЕТА ДЗЯРЖАВЫ ПНР

### аб узнагароджанні дзеячоў нацыянальных таварыстваў

За заслугі ў грамадскай працы ўзнагароджваюцца наступныя дзеячы нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў:

**КРЫЖАМ АФІЦЭРСКІМ ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ**

Райбер Эдвард
Фальгендлер Ігнацы

**КРЫЖАМ КАВАЛЕРСКІМ ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ**

Баўмінгер Роза
Вільнер Міхал
Дзун Васіль
Каролька Мікалай
Фуксман Ядвіга
Штульберг Гіта

**ЗАЛАТЫМ КРЫЖАМ ЗАСЛУГІ**

Азябла Іван
Брафман Самуіл
Брыя Аўгустын
Бухбіндэр Юзэф
Вердоні Эўгеніюш
Ільчышын Базылі
Кавалік Ян
Кантралевіч Стэфан
Макароўская Анастасія
Мушынскі Якуб
Халюпэц Адам
Хмялеўскі Міхась
Чыквін Арцём
Юзвюк Уладзімір

**СЯРЭБРАНЫМ КРЫЖАМ ЗАСЛУГІ**

Аляксеюк Іван
Ваўкавыцкі Георгій
Вішэнка Міхась
Карчэўскі Ян
Кохан Эўгеніюш
Кшэмінскі Павал
Малітарыс Ян
Скшыпка Ольгерд
Швед Віктар

**Старшыня Савета Дзяржавы**
**ЭДВАРД ОХАБ**
**Сакратар Савета Дзяржавы**
**ЮЛЬЯН ГАРАДЭЦКІ**
Варшава, 30 ліпеня 1965 год.




Вайна паказала тэхніку і ворага. Каб пабіць партызанаў, акупанты папалілі дзерняко́ўскія хутары. Народ сяліўся ў будынку былой школы, дзе знайшоў прытулак і хутаранін Аляксандр Чамель са сваёй мнагалікаю сям'ёю. Малая Вера, сёмае дзіця А. Чамеля, першы раз зацікавілася самалётамі, калі ўпаў за Дзерняковам збіты савецкі бамбардзіроўшчык. Жандары не падпускалі да таго месца, а Верцы надта хацелася пабачыць самалёт! Дзесьці вынайшла яна ў школьных кладоўках дзіцячую кніжку з малюнкамі самалётаў і лётчыкаў. І не магла нацешыцца ёю!

Па сённяшні дзень помніць урывак беларускага верша ў той кніжцы:

..«Адказаў на гэта Вова:
— Мама-лётчык, што ж
такога!»...

У Дзернякове не было больш кніжак аб самалётах — ані тады, ані потым.

★

У 1950 годзе паслалі Веру вучыцца ў Міхалоўскі ліцэй. У мястэчку спападала яна часопіс «Скжыдлята Польска», крадком здабывала яго і зачытвалася ў паўтэхнічных артыкулах, мала што разумеючы. Вера хацела зразумець, але ў ліцэі не вучылі аб самалётах... Яны сніліся ёй цэлымі начамі, а ў аўсянае жніво талкавала сёстрам:

— Дачакаюся, калі буду лётаць над гэтым полем!

Сёстры смяяліся.

Аднаго дня Вера напісала «падане» да тагачаснага ЛОК, каб прынялі яе на курс для лётчыкаў. Сястра, якая жыла ўжо ў Беластоку, здалася на Верыны ўгаворы і ў таямніцы перад маці ўзяла гэтае «падане» з сабою, павязла ў горад — перадала, куды трэба. Сталася гэта вясною 1952 года.

Веру прынялі.

★

Пазалетась дзядзька на дзерняко́ўскім хутары перажыў хвілю трывогі, калі ўбачыў праз акно гарадскую асобу на сваім полі.

— Будуць караць за чортапалох!

Так думаў дзядзька і вышаў з хаты, каб тлумачыцца. Ён бязмеры здзівіўся, калі ў гэтай асобе пазнаў Веру, замест грознага агранома.

— Ты адкуль узялася?

— Прыляцела, — сказала яна і паказала на пашу за кустамі, дзе прытаіўся самалётападобны планер-шыбовец.

А на свята Міколы Вера прыляцела пад вёску Боркі, дзе замужам яе сястра. Сёстры і браты першымі захацелі павазіць іх.

Спадабалася.

★

Штодзень — штонядзелю гудзіць над Беластокам самалёт — то вые ў акрабатычных выкрутасах, то цягне за сабою хісткага планера. Гэта лётаюць Вера і яе вучні, будучыя лётчыкі. З надыходам летняй пагоды насталі для Веры дні цяжкай працы ад ранку да змяркання — не траціць ні мінуты.

Маё спатканне з ёю не было лёгкім, я ані лётчык, ані будучы лётчык. Няшмат прыдалося мне і тое, што яе муж, лётчык Чэслаў Камінскі — гэта мой школьны калега.

Вера вяртаецца дамоў позна, выцалоўвае сваю дочаньку Кацю, якая пяшчотна мармыча, як бы гаворачы:

...«— Мама-лётчык, што ж такога!»...

Каці, названай імем бабулі, стукнуў усяго трэці гадок, але яна ўжо паспела раз злётаць з мамаю-лётчыцаю ў паднябесныя вышыні.

Я, карыстаючы з ветлівасці кіраўніка Беластоцкага аэраклуба п. Рамано́ўскага, рашыў пайсці проста на аэрадром і там пільнаваць таго моманту, калі Вера Камінская будзе мець хвілю перадышкі на зямлі — і пагаварыць з ёю. Аднак не так хутка ўдалося мне гэта. Вера, абкружаная курсантамі, тлумачыла ім заданне палётаў. Сярод іх можна сустрэць Верыных землякоў — Геніка Лаўрашука з Пянькоў, Івана Белянскага і Мікалая Буйко з Міхалоўскага ліцэя, дзе калісьці вучылася яна, лётчыца Вера. Цяпер у гэтым ліцэі існуе вучнёўскі гурток энтузіястаў авіяцыі. Вера тут чаканы госць.

Добрая з яе настаўніца. Яе выхаванцы вырастаюць на выдатных лётчыкаў. Напрыклад, адзін з яе вучняў, былы дырэктар ТОС — ужо саракагадовы мужчына — да таго захапіўся авіяцыяй, што пакінуў сваю дырэктарскую пасаду і вывучыўся на дасканалага лётчыка. Іншыя Верыны выхаванцы сталі афіцэрамі альбо майстрамі спорту. У 1963 годзе Багдан Сініца здабыў чацвёртае месца ў час авіяцыйнага чэмпіянату Польшчы.

Вера Камінская здабыла самую высокую на свеце адзнаку лётчыка — залатую адзнаку з трыма дыяментамі.

★

Месяц таму назад здарылася найважнейшае. Але не забягаючы наперад раскажу па-парадку.

Дзевятнаццатага ліпеня стаяла ясная пагода — і серабрыстыя хмары. Словам, такая пагода, якая рэдка бывае ў нашым клімаце.

Вера рашылася.

Паспрабавала таго, аб чым здаўна марыла: пастанавіла пабіць жаночы рэкорд Польшчы ў хуткасці пералёту двухасабовым планерам па трохвугольнай трасе. Сябры па працы згадзіліся заступіць яе ў службе і Вера вылецела на штурм новага рэкорду. Выбрала трасу: Беласток — Гарадок —

**(Працяг на стар. 4)**




**Вера Камінская вярнулася з палёту. На гэтым самым «Баціяне» яна ўстанавіла рэкорд на трасе: Беласток — Гарадок — Саколка — Беласток.**

